

# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

№ 9 1939 г



# нам 10 год

## РЭДАКЦЫІ ЖУРНАЛА „ІСКРЫ ІЛЬІЧА"

Цэнтральны Камітэт Комсамола Беларусі горача вітае рэдакцыю і чытачоў журнала „Іскры Ільіча" ў дзень яго дзесяцігадовага юбілея.

Вялікая адказнасць журнала перад партыяй і комсамолам у справе выхоўвання нашай дзетвары.

Прывівайце і надалей сваім юным чытачам любоў да радзімы, чэснасць, праўдзівасць і прагнасць да ведаў.

ЦК ЛКСМБ упэўнены, што гэта пачотная задача будзе вамі з чэсцю выканана.

ЦК ЛКСМБ

---

# ЮБІЛЕЙНЫЯ ПРЫВІТАННІ

МІНСК, ЖУРНАЛУ „ІСКРЫ ІЛЬІЧА"

Прыміце гарачае прывітанне. Вы святкуеце сваё дзесяцігоддзе ў тыя знамянальныя дні, калі доблесная Чырвоная Армія, аслабаніўшы Заходнюю Беларусь ад улады прыгнятальнікаў, адчыняе многім тысячам беларускіх дзяцей дарогу да ведаў. Лік вашых чытачоў безумоўна ўзрасце. Жадаю вам новых поспехаў у справе выхоўвання будучых змагароў за вызваленне ўсяго чалавецтва.

МАРШАК



Вітаю „Іскры Ільіча" з дзесяцігадовым узростам. Спадзяюся, што яны дасягнуць стогадовага ўзросту і застануцца такімі самымі маладымі, як сёння. Няхай жыве вечная маладосць!

ЯНКА МАЎР



Нашаму журналу 10 год. Я яго равесніца. Журнал чытаю акуратна. Вершы, апавяданні, казкі—усё ў ім цікавае. У далейшым я хачу чытаць расказы аб жыцці дзяцей Заходняй Беларусі.

ЕВА ГОЛЬДЗІНБЕРГ
20-я школа, III клас

Кожны новы нумар журнала „Іскры Ільіча" для мяне і для маіх дзяцей вялікая радасць.

Мая дзесяцігадовая дачка Зоя чытае „Іскры Ільіча", а мой шасцігадовы сын Фіма слухае. Лепшыя вершыкі яны адразу вывучаюць напамяць.

Маім дзецям Зоі і Фіме журнал вельмі падабаецца. Ім хочацца як найбольш цікавых казак і вершаў.

Вітаючы горача журнал „Іскры Ільіча" з яго слаўным дзесяцігадовым юбілеем, мае дзеці і я выказваем рэдакцыі пажаданне змяшчаць у журнале больш чым дагэтуль каляровых малюнкаў і друкаваць журнал на лепшай паперы.

ЗОЯ, ФІМА і ЗМІТРОК БЯДУЛЯ



Мая мама раней заўсёды мне чытала журнал „Іскры Ільіча". Я вельмі любіў слухаць, а зараз я ўжо хаджу ў школу і сам пачынаю чытаць. Мне падабаюцца расказы пра таварышоў Леніна, Сталіна, пра лётчыка Чкалава, Кокінакі. Я хачу многа, многа ведаць аб іх жыцці і дзейнасці.

ГАРЫК КУДЗІН
9-я школа, I клас

ІСКРЫ ІЛЬІЧА
ОРГАН ЦК ЛКСМБ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ
Верасень 1939 г. № 9.










# ПРЫВІТАННЕ ВЫЗВАЛЕНЫМ БРАТАМ!

Больш дваццаці год таму назад польскія паны захвацілі частку нашай Беларусі і частку Украіны.

Усе гэтыя годы працоўныя былі там, як і ва ўсёй Польшчы, пад уціскам фабрыкантаў і памешчыкаў.

Рабочыя і сяляне былі вымушаны многа працаваць, а плацілі ім гаспадары вельмі мала. Працоўныя Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны жылі зусім бедна, хадзілі ў лахманах, босыя і галадалі.

Польскія паны самі нічога не рабілі, а жылі багата таму, што абіралі сялян. Паны мелі многа зямлі, фабрыкі, заводы, палацы, золата і ўсякае іншае дабро.

Акрамя голаду і беспрацоўя, рабочыя і сяляне Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны не мелі яшчэ права вучыцца на сваёй роднай мове. Таксама не мелі яны на роднай мове ні газет, ні кніг.

Працоўных, нездаволеных такімі парадкамі, садзілі ў турмы, катавалі, вешалі.

Вось як раз'юшаныя польскія паны здзекваліся над народам. А самі выхваляліся, задаваліся, што яны смелыя, мужныя, а на справе яны самыя труслівыя нягоднікі.

Нядаўна пачалася вайна паміж Германіяй і Польшчай. Польскія генералы і афіцэры не змаглі нават камандаваць арміяй і абараняць Польшчу. Яны перапалохаліся і безупынна адступалі са сваёй арміяй. А урад Польшчы, забраўшы дзяржаўнае золата, уцёк. Доўга нават не ведалі, дзе ён знаходзіўся.

Працоўныя Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны былі пакінуты без усякай абароны і яны пачалі выступаць супроць сваёй труслівай буржуазнай улады.

17 верасня глава Совецкага Урада, Старшыня Совета Народных Камісараў Вячэслаў Міхайлавіч Молатаў абвясціў па радыё, што совецкі народ, гераічная Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія бярэ пад сваю абарону лёс нашых братоў беларусаў і украінцаў, насяляючых Польшчу.

Увесь наш вялікі совецкі народ з радасцю адобрыў рашэнне нашага ўрада.

Наша родная Чырвоная Армія выканала заданне Совецкага Ўрада са славай і доблесцю.

Зараз працоўныя Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны вызвалены з-пад гнёту польскіх паноў.

Пагранічныя слупы больш не раздзяляюць родных братоў і сясцёр.

За аказаную ім братнюю дапамогу вызваленыя з-пад панскага прыгнечання рабочыя і сяляне Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны прыносяць ад усёй душы сваю шчырую падзяку нашаму Совецкаму ўраду і ўсяму совецкаму народу, нашай гераічнай Чырвонай Арміі. Найвялікшую ўдзячнасць яны выражаюць мудраму правадыру працоўных усяго свету—роднаму Сталіну.

# Давід Сасунскі

*Нядаўна ў сталіцы Армянскай рэспублікі Ерэване адбыўся пленум Саюза совецкіх пісьменнікаў СССР, прысвечаны тысячагоддзю стварэкння вялікага эпоса, вядомага пад назвай „Давід Сасунскі“. У ім гаворыцца аб барацьбе армянскага народа за сваё вызваленне ад іншаземных заваявальнікаў.*



Аднойчы вечарам браты
Трымалі раду. Багдасар
Сказаў: „Ідзі ты, Санасар,
Знайдзі старога дзеда
І запрасі да нас на чэсць,
Стары напэўна імя дасць“.
Ледзь золак неба асвяціў,
Пайшоў у поле Санасар.
Хадзіў ён доўга, аж пакуль
Старога дзеда не знайшоў.
Высока дзед на схіле гор
Араў сахою цаліну.
А хлопчык коні падганяў.
Пабачыў Санасара дзед,
Пакінуў працу, паглядзеў,
А Санасар к яму ідзе.
Схапіў старога за руку.
„Ідзі хутчэй, дзядуля, к нам“.
А дзед яму: „Пакінь мяне
Ў спакоі“.—„Ты не бойся, дзед!
У нас ты толькі пагасці,
Я прывяду цябе назад“.
Падумаў дзед і згоду даў.
Падняў дзядулю Санасар
К сабе ў сядло, прывёз дамоў.
І накарміў, і напаіў,
Да цёмнай ночы частаваў.
І напаследак запытаў:
„Ці знаеш ты, чаго прывёз
У крэпасць гэтую цябе?“
А дзед: „Твой розум малады!
Адкуль мне ведаць, адкуль знаць
Чаго ты зваў мяне сюды?“
— „Дзядуля,—Санасар сказаў,—
Багат ты розумам і стар,
Хадзіў ты многа па зямлі.
Мы збудавалі гэты дом,
Імя-ж яму не нараклі,
Не знаем самі, як назваць.
Цябе прывёў сюды, дзядок,
Каб крэпасць нашу ты назваў.
Імя прыгожае ёй даў.
Парай, як крэпасць нам назваць“.
Стары сказаў: „Хай будзе так“.
Кругом агледзеўся, сказаў:
„Хай я памру за вас, браты,
Якое-ж імя лепей даць?“
Браты ў адказ: „Як знаеш сам“.
Стары падумаў і сказаў:
„Сцямнела зараз, раніцой
Мы гэта вырашым, сынкі“.
Заснулі, ўсталі раніцой
З малітвай снедалі, пасля
На ганак выйшлі ўсёй сям'ёй.
Стары патупаў па двару,

Усюды кінуў пільны зрок,
Благое й добрае глядзеў,
І, абярнуўшыся, сказаў:
„Не бачу, дзеткі, я ўсяго,
Каб дом ваш іменем назваць“.
„Дзядуля,—Санасар сказаў,—
Я на спіну цябе вазьму
І крэпасць нашу абнясу,
А ты глядзі—і дай імя“.
Згадзіўся дзед. Сеў на спіну.
Аб‘ехаў крэпасць, паглядзеў
З усіх бакоў, убачыў ён,
Што горы згрудзілі браты
У сцены крэпасці сваёй.
А аглядаў ён цэлы дзень:
Як вышаў з захаду з варот,
Дык толькі к вечару дайшоў,
Дайшоў, прышоў да тых варот.
І тут чакаў яго народ,
Бо згаварыліся былі:
„Як толькі з‘явіцца стары,
Насустрач выйдзем мы яму:
Якое слова скажа ён,
Спаткаўшы нас—мы словам тым
Названне крэпасці дадзім“.
І дзед прышоў. Яны к яму:
„Што скажаш, дзед?“. Стаў ля варот
Акінуў вокам верх і ніз.
Каменні ўбачыў, што на верх
Паклалі людзі,—а было
Камення тысячы пудоў.—
Здзівіўся дзед, сказаў, спытаў.
„Няхай завецца гэты дом...
Хай бог святы спрыяе вам.
Якое імя яму дам?
Хай бог дабра ўсім вам пашле.
Якая-ж сіла ў вас была,
Што скалы цэлыя ўзняла
Сасунскія на верх варот?
Было ім цяжка на зямлі



Ляжаць, а вы іх паднялі,
Надзець змаглі Карэ сан сун—
Каменны слуп—на слуп другі.
Не дом, не крэпасць, а сасун—
А ярасць збудавалі вы,
Якую ярасць бачу я
У вашай крэпасці... Сасун!“
„Даволі“,—мовіў Санасар,—
Не трэба болей слоў, імён.
Вось гэта лепшае імя
Для нашай крэпасці: „Сасун“.
Ты камень ярасным назваў,
Сказаў, што слуп на слуп надзеў,
Няхай „Карэ сан сун“, „Сасун“,
Хай ярасць будзе ёй імя.
А дом наш ярасным завуць
Няхай усе—сасунскі дом“.
І крэпасць з тых часоў завуць—
Сасун.



Я. МАЎР

# У юных натуралістаў

Рыс. В. ЦІХАНОВІЧА

Ёсць на выстаўцы павільён механізацыі—высачэзны поўкруглы калідор. Па баках яго, у два паверхі, стаяць усялякія сельскагаспадарчыя машыны, якія вырабляюць нашы савецкія заводы. Ну, і машыны! Бліскучыя, прыгожыя, як цацкі. А тыя, што стаяць высока, дык знізу і здаюцца маленькімі, як цацкі. Дзесяткі тысяч людзей аглядаюць гэтыя машыны, знаёмяцца, як яны працуюць. Некаторыя машыны на спробу прыводзяцца ў рух. Дзеля гэтага каля іх нешта такое робяць, круцяць.

А ў другім канцы выстаўкі ёсць павільён юных натуралістаў. Там адзін пакой таксама можна назваць павільёнам механізацыі. Ён увесь таксама напоўнены ўсялякімі машынамі, якія яшчэ з большым правам можна назваць цацкамі, бо яны маленькія. Гэта—мадэлі, зробленыя піонерамі і школьнікамі ўсяго Саюза. Вунь жнейка, зробленая Чувашскай дзіцячай тэхнічнай станцыяй, а гэта трактар Краснадарскай ДТС. Там веялка Варонежскай ДТС, а тут малацілка, якую зрабіў піонер Бязродны Леанід, з Краснаярска. Стаіць тут і камбайн Цэнтральнай дзіцячай тэхнічнай станцыі БССР.





Гэтыя машыны таксама рухаюцца, як і ў вялікім павільёне. Нават лепш, бо Рома Клешчынскі, вучань спецыяльнай (ваеннай) школы цэнтралізаваў кіраванне рухам так, што пускаць і спыняць машыны можна з аднаго пункта. Вось ён паціснуў кнопку—і затарахцеў трактар, паціснуў другую—заварушылася другая машына.

— А цяпер,—кажа экскурсавод,—мы паспрабуем пускаць машыны ўзмахам рукі.

На сцяне вісіць нейкая чорная бляшанка з трубкай. Экскурсавод махнуў перад ёй рукой—і недзе ў куту загудзеў карабль.

— Калі ласка, спыніце яе,—папрасіў экскурсавод адну жанчыну. Тая боязна махнула рукой у паветры—і карабль заціх.



Потым другая жанчына падняла на рукі шасцігадовую дзяўчынку. Тая махнула ручкай—і затарахцела веялка. Спыніць яе было даручана хлопчыку, які павінен быў падскочыць, каб махнуць рукой перад трубкай.

— А цяпер паспрабуем кіраваць машынамі па тэлефону,— сказаў экскурсавод, падышоў да тэлефона, узяў трубку, набраў нумар і сказаў:

— Старт!

І раптам у далёкім куту загрукаў наш камбайн. Экскурсавод перадаў трубку дзяўчынцы і прапанаваў ёй сказаць: стоп! Яна сказала—і машына спынілася. Пасля таго экскурсавод пачаў перадаваць трубку то аднаму, то другому; адзін казаў „старт!", другі—„стоп!" і па ўсім павільёне па чарзе гулі машыны.



Што і казаць—юныя тэхнікі таксама знайшлі спосаб дзівіць народ!

Не менш цікава і вялікая электрычная чыгунка сярод залы. Абсталявана яна зусім па-сапраўднаму і дзейнічае, як „дарослая".

Што датычыцца сельскагаспадарчай прадукцыі, то тут юным натуралістам цяжэй здзівіць свет. На ўсёй выстаўцы, з усіх канцоў неабсяжнага Совецкага Саюза, сабрана столькі выдатных рэчаў, што рэбятам цягацца з імі немагчыма. Але ўсё-ж такі і тут яны выставілі нямала цікавага.

Напрыклад, Вася Лейчэнка, з Калініна, захацеў вырасціць у сябе дыні, якія ў тых месцах не растуць. Ён прышчапіў іх да больш грубай і трывалай тыквы—і атрымаў вельмі нядрэнныя плады.

Рыс, як вядома, расце ў вадзе, у балоце. У Растоўскай вобласці гарачыні хапае, а вады мала. Тады юннаты пачалі выводзіць такі рыс, які мог-бы расці ў звычайных умовах. І на выстаўцы мы бачым ужо снапы гэтага так званага „сухадольнага" рысу.



А ведаеце вы, адкуль бяруцца мачалкі-трубкі? З іх яшчэ робяць летнія шапкі. У нас чамусьці лічаць, што гэта—марская трава. А сапраўды гэта такія даўгія „кабачкі", якія растуць у нас на поўдні; іх нават ядуць там. Завецца гэта расліна—люффа. Юныя натуралісты пачалі разводзіць гэтую люффу ў паўночных раёнах і паказалі прадукцыю, падобную на даўжэзныя агуркі ў банках.



Піонерка Аня Беражнёва вырасціла ў гаршку лімоннае дрэўца з двума вялізнымі жоўтымі лімонамі.

Не адсталі і нашы беларускія юннаты. Віцебскія рэбяты выставілі шаўкавічных чарвякоў і коканы іх на дубе. Ёсць такая парода вельмі карысных шоўкапрадаў. Шоўк ад іх ідзе, напрыклад, на парашуты.

Усяго пералічыць, што выставілі юныя натуралісты, тут немагчыма, ды і няма патрэбы. Нам важна адзначыць толькі адно: калі сёння рэбяты паказалі прыклады сваёй вынаходніцкай і даследчай работы, то што будзе, калі яны вырастуць, скончаць вузы, зробяцца інжынерамі, вучонымі?

**г. Масква.**




Апавяданне ЦЕЛЕСІНА

Рысункі В. ЦІХАНОВІЧА

Раніца. Бясконцае поле засыпана глыбокім снегам. Недзе далёка нудна брэшуць сабакі. Іхняе выццё зліваецца з рэзкім выццём ветра. Па снягу цягнуцца дзве палоскі дробных крокаў, якія пакідае за сабой малы хлопчык з сумкай за плячыма. Чым далей—усё даўжэй робяцца гэтыя палосы. Яны нібы разматваюцца з хлопчыкавых ног, як дзве даўгія белыя істужкі. А вецер усё мацнее, гоніць снег хлопчыку ў твар, на шапку, на сумку з кнігамі. Вецер свішча ў Ваніны вушы, а да школы яшчэ далёка. Направа, ля самага гарызонта, выдзяляецца адна хатка. Здалёку яна падобна на белы грыб, каля якога расце траўка.

Калісьці Ваня з бацькам ездзіў на той хутар. Ён ведае, што гэта не траўка, а высокія ёлкі. Бацька ехаў тады ў госці к брату— да Ванінага дзядзькі. Два дні гуляў там Ваня, здружыўся са стрыечным братам, а на трэці дзень яны паехалі. З таго часу бацька ўсё збіраецца туды з'ездзіць і ніяк не можа сабрацца. То дарога дрэнная, то няма часу. Да таго хутара далёка. Выходзіць, як бацька кажа: „МТС у лесе, а калгас у стрэсе". Як-жа ты ў госці паедзеш такую далечыню?! Так і не паехалі больш. І да Ваніных бацькоў ніхто не прыязджае. Хутар ад хутаре далёка. Сумна. Да стрыечнага брата на дабярэшся, школа ад хаты таксама далёка і да праўлення калгаса не блізка.

Апрача школы Ваня нідзе не бывае. Бацька кажа: шкада ботаў. Але Ваня разумее, што не пагэтаму яго трымаюць дома. Маці прама гаварыла:

— Летась ваўкі Ігнаську задавілі. Небяспечна, сынок, небяспечна. Усё поле ды лес і ні хацінкі навокал...

А Ваню ўсё цягне схадзіць у калгас, там дзе пабудавалі нядаўна клуб, або пабываць каля млыну. Пасля заняткаў у школе хутка надыходзіць вечар, і Ваня нікуды не ідзе, бо баіцца ваўкоў.

Улетку крыху лепш. Дзень праходзіць весялей. Адусюль даносяцца дзіўныя гукі, якія поўняць Ваніну фантазію. Усё яму здаецца неяк цудоўным. „Млын, мабыць,—думае хлопчык,—вялізны, вялізны, як гіганцкая будыніна з двума жалезнымі крыламі. Калі гэтыя крыллі круцяцца, то, пэўна, стукаюць



чунамі, бо жылі на хутары, людзей не бачылі, а зараз і гаворка знайшлася. Накупілі сабе розных прыгожых рэчаў: крэслы, шафы, партрэты. Кожны хоча, каб у яго хаце было прыгажэй, ямчэй.

Тут у вёсцы Ваня даведаўся пра многа навін. Ён часта бывае ля трактара, глядзіць кінофільмы. Як жылі на хутары, нічога гэтага не было. Ваня нават склаў вершык пра ранейшы хутар.

Маці нават прыслухалася, калі пачула гэты вершык, а рэбятам ён вельмі спадабаўся.

па дахах, па дрэвах. Таму яно шуміць так, што чуваць з-за рэчкі". Але ўвосень і ўзімку зноў рабілася сумна, знікалі прыемныя гудкі трактароў, млыну, і толькі чуеш удзень і ўначы, як нудна брэшуць сабакі ды свішча вецер у полі.

Сёлета выйшла пастанова ўрада пра сцягванне хутароў.

Як толькі надышла вясна, хутаране ўзяліся за справу. Пачалі перавозіць будынкі на шырокі сухі пляц. Дапамог ім у гэтым увесь калгас. Цяпер хаты стаяць у вёсцы, у якой чатыры вуліцы. Вёску назвалі „Чырвоны Май".

Ваня дапамагаў бацьку, калі той складваў хату, перавезеную сюды з далёкага хутара, які стаяў у багне. Ад новага месца і школа блізка і млын недалёка. Ванін дзядзька перавёз сюды свой хутар апошнім, бо жыў далей за ўсіх. Цяпер Ваня сустракаецца кожны дзень са сваім стрыечным братам Мішам. Маці ўжо не будзе больш пужаць ваўкамі, а бацька не пашкадуе Ваніных ботаў. Ён абяцаў купіць сыну новыя боты. Больш не прыдзецца прабірацца да школы праз дрыгву, балоты і, наогул, пры людзях трэба прыгажэй апранацца і абувацца.

Ваня адчувае, як нешта змянілася ў яго жыцці. Раней іх звалі маў-

Аднойчы ўлетку Ваня і Міша пайшлі на рэчку рыбу вудзіць. Быў прыгожы ліпнёўскі дзень. Па дарозе яны ўбачылі як недзе далёка-далёка стаяць дзве ёлкі. Ваня і кажа да Мішы:

— Памятаеш, як сумна было жыць там, на хутары, каля тых вунь ёлак, а як весела і прыемна зараз у нашай прыгожай і вялікай вёсцы „Чырвоны Май"!

Потым рэбяты сядзелі на беразе і закідвалі вудачкі. Прысеў да іх і я. Мы завялі гутарку, і яны мне расказалі ўсё тое, пра што я тут напісаў.

Калгас „Чырвоны Май",
Пухавіцкага раёна.





# КОНІК

*Змітрок Бядуля* — *Рысунак Давідовіча*

Па даліне на лужочку
Ездзіць я люблю,
Я з дубовага кіёчка
Коніка зраблю.

Гайда, гайда, буланенькі,
Гайда ў цёмны бор!
Рыссю, рыссю конь маленькі
Мчыцца, як віхор.

Скача дыбам, б'е капытам
І нясе, нясе.
Ён накормлены, памыты
У расе, расе.

Стрыжэ вухам, бліщчыць вокам,
Грывай—мах і мах.
Ці то блізка, ці далёка—
Ён бяжыць, аж страх!

# КАЗБЕК

## Апавяданне про любімага каня БУДЗЁННАГА

У атаку Будзённы скакаў на сваім любімым кані Казбеку.

Некалькі разоў Казбек выручаў гаспадара ў баі. Аднойчы за Будзённым гналіся сорак белагвардзейцаў на адборных конях. Але шпарканогі Казбек выратаваў Будзённага ад немінучай смерці.

У другі раз, у баі, калі ўсе змяшаліся, і Будзённы ўрэзаўся ў самы натоўп ворагаў, белагвардзейскі палкоўнік выстраліў з рэвальвера прама ў Сямёна Міхайлавіча, але прамахнуўся. Куля забіла любімага каня і таварыша. Да камандуючага падвялі другога каня, ён ускочыў на яго і крыкнуў:

— За мной!

Белыя былі разбіты. Яны ганебна ўцяклі, і нашы коннікі гналі іх па жоўтаму выпаленаму стэпу.

Пасля бою Будзённы раптам кудысь заспяшаўся.

— Ты куды? — спытаў яго таварыш Варашылаў. Ён заўважыў, што Сямён Міхайлавіч заклапочаны і сумны.

— Каня ў мяне забілі, Казбека. Хачу ў апошні раз на таварыша паглядзець,— адказаў Сямён Міхайлавіч.

— Пойдзем разам,—адказаў Варашылаў. Ён таксама ведаў і любіў Казбека.

Варашылаў і Будзённы ішлі полем. Тут і там валяліся трупы. Санітары на насілках выносілі раненых.

Будзённы ішоў прама да таго месца, дзе ён пакінуў Казбека. Казбек ляжаў нерухома. Будзённы падышоў да каня. Ён стаяў моўчкі. Цяжка яму было расставацца з другам. Падышоў яшчэ адзін камандзір. Казбек падняў галаву і зірнуў на свайго гаспадара.

— Прыстралі яго, каб не пакутваў,— сказаў камандзір Будзённаму.

Будзённы выцягнуў з кабуры рэвальвер, прыцэліўся каню ў галаву.

Але раптам конь як быццам усё зразумеў. З вачэй у яго пакаціліся буйныя слёзы.

Будзённы адвёў руку з рэвальверам і адвярнуўся.

— Не магу,—сказаў ён Варашылаву.

Варашылаў маўчаў.

Ён бачыў, як цяжка Будзённаму расставацца з Казбекам.

Камандзір, які прапанаваў прыстрэліць Казбека, выцягнуў з кабуры свой рэвальвер.

— Пачакай,—сказаў Варашылаў камандзіру.—Трэба паклікаць урача. Можа быць, вылечым.

Камандзір паспяшыў за ўрачом. Урач прышоў зараз-жа і агледзеў каня. Ён адвёз Казбека ў госпіталь і пачаў лячыць. Не прайшло і некалькі тыдняў, як Будзённы мог ужо асядлаць Казбека.

І яшчэ многа разоў хадзіў Будзённы ў атаку на сваім любімым кані.

І яшчэ многа разоў выручаў Казбек свайго гаспадара.





# Чароўны пярсцёнак

Казка В. ВОЛЬСКАГА

*Працяг*

Рысункі А. ШАХРАЯ

Па ўсяму гораду былі развешаны і запалены жоўтыя, сінія, зялёныя, чырвоныя ліхтары. Увесь дзень і ўсю ноч стралялі з гармат, білі ў барабаны, трубілі ў трубы. Хлапчукі бегалі па вуліцах і крычалі „ура!"

Усе вокны палаца былі асветлены. Грымела музыка. У пакоях было паўнютка гасцей. У самым галоўным зале палаца, на самым лепшым месцы сядзеў на троне стары кароль і прыхільна глядзеў навокал. На галаве яго зіхацела новая залатая карона, купленая дзеля свята ў самай лепшай краме каралеўства.

Каралеўну абкружаў цэлы рой прыгожых паненак у цудоўным шоўкавым адзенні, але яна была прыгажэй за ўсіх і вельмі гэтым ганарылася. На галаве ў яе была таксама залатая карона, але маленькая, не такая як у караля.

На вяселлі прысутнічала безліч усялякіх паноў. Адны з іх былі тоўстыя, як бочкі, другія, наадварот, худыя, нібы цвікі, але ўсе надзвычай багата апранутыя—у шоўк, аксаміт і атлас.

Паны елі, пілі, танцавалі мазурку ды паланез і наперабой віншавалі парабчука з перамогай, лоўка кланяючыся на ўсе бакі—і яму, і стараму каралю, і каралеўне. Яны ўмелі гэта рабіць надзвычай ветліва і далікатна, тым больш, што ў сапраўднасці ніколі не думалі таго, аб чым казалі на словах. Сталы ў палацы проста ламіліся ад усялякіх шляхетных страў, ад віна, піва і розных прысмакаў.

Адным словам, усяго там было. Хіба, можа, як кажуць, птушынага малака не хапала.

Пасля вяселля не захацела каралеўна жыць з парабчуком у бацькаўскім палацы. Пачала яна свайго мужа прасіць, каб ён на заклятым востраве замак пабудаваў. Згадзіўся парабчук, зірнуў на свой пярсцёнак, пакруціў яго вакол пальца і пажадаў, каб быў у яго на востраве свой уласны палац. Як пажадаў, так усё і зрабілася. Вырас на востраве вялізны замак, ды такі прыгожы! На вежах рознакаляровыя сцягі развяваюцца, а па сценах ходзяць вартавыя і ў трубы трубяць:

— Тру-ру... тру-ру...

А каля брамы стаяць салдаты ў прыгожых мундзірах і ўсім чэсць аддаюць.

Там і пасяліўся парабчук з маладою жонкаю і з сваімі сябрамі—катом і сабакай.

Аднаго разу задумалася каралеўна: адкуль гэта ў яго ўсё бярэцца? Пачала яна прасіць парабчука, каб ён расказаў, якім гэта чынам робіцца ўсё, што ён захоча.

Спачатку не захацеў парабчук ёй расказаць, але яна пачала тады плакаць ды яго страшыць:

— Я,—кажа,—памру, калі ты мне не скажаш, бо ў мяне нервы не ў парадку.

Задумаўся парабчук, бо шкадаваў ён каралеўну, а кот і сабака сядзяць ды на яго глядзяць.

— Мяў, мяў,—замяўкаў кот.

— Ваў, ваў,—забрахаў сабака.

Гэта азначала на іхнай мове: не трэба, не кажы!

Але не паслухаў ён сваіх сяброў і паказаў каралеўне, як трэба карыстацца чароўным пярсцёнкам.

Супакоілася каралеўна.

Жывуць яны сабе ў ладзе ды ў спагадзе.

Калі чаго нехапае, дык пакруціць ён пярсцёнак і з'яўляецца адразу ўсё, чаго каралеўна пажадае.

Добра жылі, як мае быць.

Але вось каралеўна ізноў нешта нездаволена. Ходзіць пахмурная, нават не смяецца і ўсё на нейкага прыдворнага шляхцюка з каралеўскага палаца пазірае. Падабаўся ёй гэты шляхцюк. Вось і запрасіла яна яго да сябе ў госці. Ходзіць вакол яго, рознымі прысмакамі частуе. А парабчуку загадала на гэты час паехаць да бацькі караля на паляванне.

Паслухаўся ён жонкі і сабраўся ў дарогу. А пярсцёнак каралеўна загадала аддаць ёй, каб не згубіўся часам у дарозе.

Ізноў паслухаўся парабчук, аддаў каралеўне пярсцёнак, паклікаў ката з сабакай дый паехаў да караля-бацькі на паляванне.

Цэлы дзень паляваў парабчук з каралём у лесе. Пад вечар развіталіся яны. Паехаў кароль у свой каралеўскі палац, а парабчук пайшоў з катом і сабакай на бераг мора, каб адтуль па мосту перайсці ў свой замак на востраве.

Падышоў ён да берага,—аж мосту і няма. Глянуў ён на востраў і апынуўся раптам у жалезнай клетцы. А каралеўна стаіць на вежы з сваім шляхцюком, глядзіць на парабчука ў клетцы ды смяецца.



Гэта яна знарок усё зрабіла, пярсцёнак пакруціўшы.

Паспрабаваў тады парабчук выламіць краты, каб вызваліцца, ды нічога не выходзіць. Моцныя краты, тоўстыя,—не паддаюцца.

— Здрадзіла мне мая жонка, прыгожая каралеўна,—падумаў парабчук і засумаваў у клетцы.

Падышлі да яго кот і сабака.

— Не сумуй, дружа,—гавораць.—Вызваліў ты нас калісьці з ліхой бяды, дык цяпер мы табе дапаможам.

Сказалі яны гэта і падбеглі да мора. Кот узлез на сабаку, а сабака—бабух у ваду і паплылі да вострава.

Пераплыўшы мора, вылезлі кот і сабака на бераг. Сабака застаўся на беразе, а кот пабег да палаца і ўлез праз акно ў пакоі.

Бачыць ён, спіць каралеўна ў ложку на шоўкавых пярынах, а пярсцёнак у роце трымае, каб ніхто не ўкраў.

Што рабіць?

Пайшоў кот у склеп, злавіў там пацука і давай яго душыць. А пацук быў разумны. Пачаў ён у ката прасіцца.

— Адпусці мяне, пане коце, што я табе кепскага зрабіў?

— Нічога ты мне кепскага не зрабіў,—адказаў яму кот,—але калі ты мне зараз не ўкрадзеш у каралеўны пярсцёнак, дык я цябе з'ем.

— Не еш мяне, пане коце,—гаворыць пацук,—прынясу я табе пярсцёнак, усё, што хочаш, зраблю.

Адпусціў яго кот і пабег пацук у каралеўскую спальню. Прыбег ён туды і схаваўся пад ложкам, а каралеўна спіць і пярсцёнак у роце трымае, каб ніхто не ўкраў.

Няма як узяць!

Пабег тады пацук у кладоўку, усадзіў хвост у масла, вярнуўся ў спальню, ускочыў на ложак ды—ляп! каралеўну хвастком па губах.

Аблізнулася ўва сне каралеўна,—смачна! але пярсцёнка з роту не выпускае.

Пабег тады пацук на стайню, усадзіў хвост у бочку з каламаззю. Вярнуўся ў спальню, ускочыў на ложак ды—ляп! каралеўну ізноў хвастком па губах.

Аблізнулася каралеўна,—прыкра! брыдка! нясмачна! плюнула ўва сне дый выплюнула з роту пярсцёнак, а пацуку толькі таго і трэба. Падхапіў ён пярсцёнак і пабег да ката, а кот да сабакі. Ускочыў кот на сабаку і паплылі яны па мору.

Сядзіць кот на сабаку, маўчыць, пярсцёнак у зубах трымае. Праплылі яны амаль палову ўсяе дарогі. Пачаў сабака непакоіцца.

— Ці добра пярсцёнак трымаеш?—запытаўся ён раптам у ката.

— Трымаю!—адказаў кот, раскрыўшы мордачку, а пярсцёнак—боўць у ваду і пайшоў на дно.

Няма чароўнага пярсцёнка!



Расказаў парабчук вужу пра свае прыгоды і пра сваю страту. Выслухаў вуж.

— Не бойся,—кажа,—чалавеча, я табе дапамагу.

Нырнуў ён на самае дно і выкінуў на бераг пярсцёнак, а кот яго падхапіў ды ў клетку праціснуў.

Падзякаваў хлопец вужу, узяў той пярсцёнак, пакруціў яго вакол пальца і знікла жалезная клетка нібы яе ніколі і не было.

Вышаў парабчук на волю. Пакруціў яшчэ разок і з'явіўся ізноў мост паміж зямлёй і востравам. Прайшоў ён па таму мосту ў замак, аж там каралеўна з шляхцюком сваім банкетуе. Схапіў ён шляхцюка за каўнер ды выкінуў праз акно ў мора. Убачыла гэта каралеўна, ускрыкнула: „Ах!" і страціла прытомнасць, бо нервы ў яе былі не ў парадку. Тады ўзяў парабчук, пакруціў пярсцёнак і сказаў:

Знік у марской глыбіні.

Пачалі кот і сабака паміж сабой сварыцца. Адзін кажа: ты вінават, а другі: не, братка, ты!

Але лаянкай, вядома, справе не дапаможаш.

Вылезлі кот і сабака на бераг. Не ведаюць, што рабіць, як свайго гаспадара з бяды вызваліць. Бегаюць вакол клеткі ды бядуюць кожны па-свойму. Сабака брэша ды скуголіць, а кот мяўкае, нібы дзіця малое плача. Так яны гаспадара свайго шкадавалі. А парабчук сядзіць каля самай вады ў клетцы і таксама бядуе.

— На векі я праз жонку загінуў,—думае.

Раптам, высунулася з вады галоўка вужа:

— Эй, сябры, чаго вы тут гэтак засумавалі?— пытаецца.

— Хачу, каб каралеўна жабрачкай зрабілася!

І адразу знікла каралеўна з вачэй.

Апынулася яна ў нейкай дальняй вёсцы і мусіла там жабраваць, не гледзячы на свой каралеўскі гонар, бо рабіць, вядома, нічога не ўмела.

Пасумаваў крыху парабчук, але пасля адумаўся, бо, сапраўды, навошта яна яму была, тая каралеўна? Застаўся ён у замку адзін з сваімі звяраткамі і жылі яны там весела і шчасліва, гора не ведаючы. Мо' і цяпер жывуць.

Вось і расказаў я вам казку да канца, паднясіце мне чарку вінца, а калі не, дык такой бяды!— нап'юся і вады.







Эдзі АГНЯЦВЕТ

# АНЮЦІНЫ ВОЧКІ

За хатаю нашай
Зялёны садок;
Там ходзіць Анютка,
А з ёю—дзядок.

У дзеда па пояс
Вісіць барада,
І ціхая дужа
У дзеда хада.

Ён зловіць табе
Матылька у траве,
Ён кожную кветку
Табе назаве.

Ён знае, ці будзе
Халоднай зіма.
Такога дзядулі
Нідзе больш няма!

Павольна Анютка
Ідзе па садку.
Глянь—новая кветка
Стаіць у кутку.

Ласкавыя вочы
Сінеюць на ёй.
Ніколі Анютка
Не знала такой.

— Гваздзіку і розы
Я помню і ў сне.
І ландыш я знаю,
А гэтую—не.

Скажы, як завецца?
— То слухай, мой свет:
„Анюціны вочкі"—
Адказвае дзед.

— Анюціны вочкі!
Ды што ты, дзядок.
То—сінія вочкі,
Мае-ж—вугалёк.

Глядзі!—і Анютка
Да кветкі самой
Прыпала чарнявай
Сваёй галавой.

Схілілася кветка
І глянула ў бок.
— Чаму-ж ты смяешся,
Скажы мне, дзядок?





# Крачак

Апавяданне М. ІЛЬІНСКАГА

Калі Крачак, прадзёўбшы шкарлупку, вылез з цеснага ўжо для яго яечка, ён быў увесь мокры. Але да яго прасунуўся шырокі пляскаты нос, і не паспеў ён нават піскнуць, як апынуўся паміж крылом і бокам сваёй маці.

Увесь вечар і ноч Крачак невылазна прасядзеў пад матчыным крылом.

Калі прадранішні вецярок павольна пабег па вадзе, Крыжная ў перавалку вышла з гнязда і, ціханька кракнуўшы, цяжка пялёхнулася ў ваду. Крачак першы патэпаў за маці. Ён некаторы час няўпэўненаківаўся на слабенькіх яшчэ лапках, стоячы на канцы карча, але раптам пад уплывам нейкага моцнага жадання кінуўся ў ваду. На момант у яго захапіла дух, але зараз-жа, спрытна перабіраючы лапкамі з пруткімі, як гума, перапонкамі паміж пальчыкаў, ён плыў ужо да маці.

Крыжная, ціха кракаючы, паплыла ўздоўж сцяны маладога сітніку; за ёй плыў Крачак, за ім весела ціўкаючы рэшта—чатырнаццаць качанят.

Аднак радасць іх была вельмі нядоўгая... У паветры мільгануў цень. Крыжная, голасна і трывожна кракнула, залапатала куцымі ад лінькі, бездапаможнымі крыламі, але... шэра-жоўты Лунь маланкай рынуўся да качанят, і ў наступны момант ужо знік за берагавой лазой, уносячы ў капцюрах аднаго з іх.

Крачак бачыў толькі цень каршуна, але, схаваўшыся пад крылом чуў, як шалёна б'ецца матчына сэрца і зразумеў, што апрача прыемнай вады, недзе ўверсе ёсць яшчэ і страх, ад якога трэба ўцякаць ці хавацца.

Аднойчы на захадзе сонца, калі па рэчцы пацягнула прыемным вільготным халадком, а сітнік слаў па вадзе свой трапяткі цень,— у вывадку адбылася трывога. Раптам знікла адно качанё. Крыжная не ўмела лічыць і не ведала, ці ўсе качаняты ў наяўнасці, але яна адчула, што здарылася бяда. Яна закракала, замітусілася,—але ўсё было ціха, спакойна. Крачак схаваўся было ў траву, а затым, супакоіўшыся, вылез з яе і пачаў зноў набіваць валяк жаб'яй ікрой, якой было многа ля берага. Раптам ён адчуў, што нехта схапіў яго за лапку і цягне ўніз. Ён жаласна ціўкнуў і знік пад вадой. Але Крыжная нырцом кінулася за ім і з усёй матчынай адвагай і злосцю накінулася на вадзянога пацука. Пацук кінуўся ўбок і выпусціў здабычу. Крачак быў выратаваны. Ён зразумеў, што небяспека ёсць не толькі ў паветры, але і пад вадой.

Калі зацвіла прыгожая стрэліца, павылазілі з вады жоўтыя збаночкі і белыя вадзяніцы, а востралісты і калючы целарэз выпусціў прыгожыя кветкі, Крачак быў ужо досыць вялікім, пад цёмнабурым пухам тырчалі пянькі будучага пер'я. Ён навучыўся спрытна ныраць і добра хавацца ад небяспекі.

У Крыжнай адрасло пер'е, і яна выглядала вельмі ганарыста, калі плыла на чале чародкі качанят.

У гэты час на вывадак навалілася новая бяда. І прышла яна аднойчы ўначы, калі месяц лагодна асвятляў раку скрозь лёгкі туман, а Крачак, агорнуты цёплынёй гэтага туману, захоплена набіваў валяк.

На вывадак напала выдра.

Дарэмна кідалася самаахвярна маці амаль у пашчу да звера, пагражаючы і крыкам і крыламі,—двое качанят загінула ў вострых зубах драпежніка. Кожную ноч спрытны і на вадзе і пад вадой звер нападаў на вывадак. Калі засталося толькі шэсць качанят, Крыжная павяла вывадак на бераг. У Крачка захаваліся ад той начы самыя непрыемныя ўспаміны.

Ішлі лугам, полем, лесам, кустамі і толькі пад раніцу, з падбітымі і паабдзіранымі лапкамі, прышлі да вады.

Столькі вады качаняты яшчэ ніколі не бачылі,—гэта было вялікае возера, і Крачак зразумеў, што свет значна больш, чым некалькі затокі прагалін яго роднай рэчкі.

Калі ночы пачалі рабіцца даўжэйшымі, а туманы гусцейшымі, Крачак ужо ўвабраўся ў пер'е і досыць спраўна лётаў.

У гэты час паспела ярына, і, як толькі заходзіла сонца, Крыжная лётала з вывадкам на поле, дзе да раніцы Крачак набіваў валяк буйным пахучым зернем. Ён рос і мужнеў. Ён ужо не ціўкаў, але кракаў, як сапраўдны качар. У гэтую пару ён ледзь не загінуў, жыруючы на аўсе.

Качкі так захапіліся аўсом, што нават пільная маці недачула шэлесту асцярожных крокаў... Мільгануў доўгі цень гібкага звера, лязгнулі зубы і сышліся на хвасце Крачка. З усіх сіл ірвануўся ён у паветра, пакідаючы ў зубах ліса чатыры хваставых пяра.

Аднае раніцы, калі вывадак, пасля сытнага снедання, размясціўся на адпачынак на невялічкай прагаліне ў сітніку, скрозь па берагах возера пачуліся грымоты.

Крыжная ўстрапянулася і ціха, але трывожна паклікаўшы качанят, накіравалася ў сітнік. Не паспеў вывадак праплысці і дваццаць крокаў, як насустрач яму, лопаючы па вадзе, ламаючы сітнік, шпарка плыў нябачны яшчэ Крачкам звер. Вялікаяікластая пашча была разяўлена; з яе высоўваўся даўгі ружовы язык, паабапал галавы матляліся даўгія вушы. Крыжная, а за ёй і ўвесь вывадак спрытна павярнулі ў бок чыстай вады. Але не паспелі яны і выткнуцца з яе, як з лодкі, якая плыла паўз сітнік, нешта моцна грукнула. Крыжная рынулася ў паветра, голасна загадваючы дзецям плысці ў розныя бакі і хавацца.

Але чалавек у лодцы падняў нешта бліскучае, адкуль вылецеў агонь, дым, грымота, і Крыжная, зламаўшы ў паветры крылы бездапаможна бразнулася ў ваду. Яна яшчэ білася ў сударгах, калі да яе падплыў ікласты звер, ухапіў і панёс да лодкі.

Крачку зрабілася невыразна страшна. Ён з усёй шпаркасцю маладых крыл рвануўся ў вышыню.

Зноў грымнула. Каля Крачка нешта прасвісцела і апякло бок. Але ён ні на што не зважаў і браўся ўсё вышэй і далей.

Крачак зрабіў круг і зірнуў на пакінуты зараснік сітніку. Ён убачыў, як адтуль вылятаюць яго браты і сёстры і пад стрэламі з берагу і з лодкі бясформенымі шматкамі пер'я валяцца ў ваду.

Толькі сеўшы на ваду, Крачак адчуў, што ў яго баліць бок. Ён дакрануўся канцом носа да балючага месца і абмацаў пад скурай нешта круглае. Доўга і злосна, не зважаючы на боль, церабіў ён гэтае круглае, аж пакуль пад вострым нагатком кончыка носа не лузнула скура і з-пад яе не вылузалася цвёрдая шрацінка. Крачак праглынуў яе. Так пачалося новае жыццё Крачка ў стаі.

Усё больш і больш жаўцела лісце на дрэвах. Усё даўжэй і халадней рабіліся ночы. Усё настойлівей праследвалі паляўнічыя раз'еўшыхся на доўгіх начных жыроўках качак.

У тую пару Крачак быў ужо зусім дарослым качарам. Чорнабурая зверху галава яго пераходзіла ў жоўта-шэрую з чорнымі крапкамі шыю; ніз шыі і валяк былі каштанава-бурага колеру з чорнымі плямкамі ў выглядзе косак; спіну пакрывала бурае пер'е з светла-бурымі, шэрымі і цёмна бурымі крапкамі. Размах крылаў у яго быў 104 сантыметры. Ён быў дужы і прыгожы.

Стайка, да якой ён прыстаў на возеры, ператварылася ўжо ў вялікую стаю, якая падпарадкавалася старой спрактыкаванай Крыжнай качцы. Па яе загаду ўвечары стая ляцела на жыр; па яе загаду варочалася на дзень на возера, для адпачынку.

Аднойчы, калі ля берагоў возера з'явіўся ўжо лёд, стая ўзнялася ў паветра і накіравалася на поўдзень—у вырай, дзе многа сонца, цяпла і ежы, дзе можна перачакаць зімовыя халады, каб на вясну вярнуцца да родных азёр і рэчак.



# КРАБЫ

**АПАВЯДАННЕ**

Аднойчы ў Крыму я ўзяў ручнік і пайшоў на бераг мора. Калі я сыходзіў уніз, мне здавалася, што каменні каля берага пакрыліся якімісьці чорнымі плямамі. Але калі я сышоў да берага, каменні былі чыстыя і гладкія, яны блішчэлі, іх абмывала марская вада.

Я выбраў вялікі плоскі камень, падаслаў ручнік, скінуў вопратку і лёг на камень. Так ляжаў я доўга, аж сонца моцна нагрэла мне скуру, і патрэбна было перавярнуцца. Я павярнуў галаву і здзівіўся.

Усе каменні, каля самай вады, зноў пакрыліся чорнымі плямамі. Толькі зараз гэтыя плямы былі вялікія і жывыя; адны паўзлі ўгару, другія соўгалі лапкамі, а некаторыя, прыўзняўшыся, дзівіліся на сонца.

Гэта былі крабы — круглыя, чорныя марскія ракі. Найбольшы з іх быў шырынёю з маю далонь, а найменшы — як медная капейка. Іх было многа-многа сотняў — я зірнуў уздоўж берага: колькі я мог бачыць — усё каменне падрад было аблеплена крабамі. Што раз новыя і новыя вылазілі са шчылін на сухі камень; яны паўзлі бокам, нібы чорныя гузікі з нагамі і клюшнямі. Здаралася, што яны сутыкаліся адзін з другім, адступалі; здаралася, што і падаў які-небудзь назад, пад камень. Але яны поўзалі мірна, вялікія не краналі малых, толькі кожны імкнуўся першым вылезці на сонейка.

Я зацікавіўся адным вялікім крабам. Гэты быў ужо не як гузік, а як невялікі чорны гаршчок, і клюшні ў яго былі здаравенныя. Ён узлез на сухое месца, падняўся на нагах і стаяў ціха, быццам дзівячыся навакольным. Я прыціх, краб пастаяў крыху і пачаў есці.

Вялізнымі клюшнямі ён зразаў марскі мох з камення і нёс яго да рота — то правай, то левай клюшняй, як чалавек, што абедзвюма рукамі, без лыжкі, есць кашу. Ён рабіў гэта так хутка і спрытна, што я рассмяяўся і падняў руку.

У імгненне крабы зніклі. Яны пападалі з каменняў у шчыліны, як мёртвыя. Усё каменне зноў было голае і чыстае. Доўга давялося мне чакаць — пэўна, мінут з дзесяць, пакуль зноў па аднаму, асцярожна пачалі вылазіць крабы.

З украінскай мовы пераклаў *М. Лупсякоў.*



# ЛЕСНІЦА

Рэбяты! Адным разрэзам раздзяліце гэтую леснічку (мал. 1) так, каб потым з атрымаўшыхся фігурак можна было скласці квадрат (мал. 2).




# ЛЯГУШКА-АКРАБАТ



Нарысуйце на тоўстай паперы гэтую лягушку і выражце яе. Потым прыклейце пад пярэднія лапкі па шарыку з фольгі (у якую закручваюць шакалад). Уваткніце іголку ў пробку, а потым пробку з іголкай устаўце ў горлышка бутэлькі і палажыце лягушку мордачкай на вастрыё іголкі. Ваша лягушка не ўпадзе: шарык утрымае яе ў роўнавазе.

# РЭБУС




# ПАХОДЖАННЕ ПАГАВОРАК

**Шукаць учарашні дзень**

Гэта распаўсюджаная пагаворка ўзнікла больш 400 год назад. Нямецкі князь Іаган Фрыдрых меў звычай з ліцамерным жалем паўтараць, што ён дрэнна, бескарысна праводзіць час.

Аднойчы вечарам ён засмучана сказаў: „Вось я зноў дзень згубіў“. Шут князя Клаус на гэта адказаў: „Заўтра мы ўсе яго добранька пашукаем“. І калі на другі дзень, забыўшы аб сваёй звычайнай фразе, князь спытаў у шута, куды ён так паспешліва збіраецца, шут адказаў: „Шукаць учарашні дзень, які ты згубіў“.

# ЗАГАДКІ

1. Стаіць зруб
   повен круп.
2. Малы ўдалы
   скрозь зямлю прайшоў,
   чырвоную шапку знайшоў.
3. Ёсць зямля, хадзіць нельга,
   ёсць дарогі, хадзіць нельга.

Цана 30 кап.



# ПАКАРАНЫ ЛОДЫР

Тэкст ІЛЬІНСКАГА

Рысункі МАЛЕВІЧА



1. Бобік, козлік барадаты,—
Кожны працаю заняты...
Толькі лодыр—Васька-кот
Не жадае мець турбот.



2. Працаваць гультай не любіць
І з вядзерца рыбу „вудзіць"...
Раптам бачыць Васька: ракі!
— Гэта ежа ці прысмакі?



3. Ракаў ён дасюль не бачыў,—
Выгляд іхні азадачыў...
Ад здзіўлення Васька-кот
Разяўляе нават рот.



4. І не зглядзеў ён, як рак—
Хоп за нос, ды моцна так,
Што ў вачах зрабілась цёмна...
Кот завыў, як непрытомны.




5. Хоць зламаў ён раку клешні,
Ды да доктара, канешне,
З клешняй ракавай на носе
Бегчы Ваську давялося.



6. Доктар воўк—хірург вядомы,
Быў на шчасце Ваські дома.
Ён узяў у лапы клешчы
І дзярэ ад носа клешню.

В. а. Рэдактара А. В. Бярозкін. Афармленне В. Ціхановіча. Адрас рэдакцыі: Мінск, Дом Друку
Друкарня імя Сталіна. 20000 экз. Зак. 945. Уп. Галоўліта БССР № 592.